# МАКАР ШАЛАЙ

Крытык Макар Шалай (сапраўднае — Шалаеў) нарадзіўся 17 лютага (паводле старага стылю) 1906 г. у в. Цельцы на Полаччыне ў сялянскай сям'і. Скончыў партыйную школу ў Віцебску. У 1925—26 г. працаваў сакратаром Нардома пры выканкаме г. Расоны (загадчыкам быў Я. Скрыган). У 1927 г. уступіў у «Беларускую літаратурна-мастацкую камуну» (заснавана 21 снежня).

Друкаваўся ў часопісе камуны "Росквіт" (рэдактар — П.Шукайла). Выступаў з рэцэнзіямі на творы П.Броўкі, А.Александровіча, Я.Скрыгана, Г.Брэскай і інш. На апошнюю таленавітую сяброўку "Маладняка", "полацкую прыгажуню", як называў яе В.Маракоў, Макар Шалай адным з першых (разам з М.Гарэцкім) звярнуў увагу: "Трэба зазначыць досыць сур'ёзныя адносіны Брэскай да фармальнай апрацоўкі сваіх вершаў..." На жаль, у часы першых "пісьменніцкіх" арыштаў паэтка знікла.


Шалай М.

Ёсць сведчанні аб публікацыях Макара Шалая і ў другіх выданнях, але пакуль яны не знойдзены.

У 1928 г. М.Шалай паступіў у БДУ (разам з Я.Скрыганом і пры дапамозе наркома асветы А.Баліцкага[1] і П.Шукайлы).

Як вучыўся М.Шалай вядома з успамінаў Я.Скрыгана, які жыў з ім у інтэрнаце: «[Ён быў] чалавекам нястрымнага запалу спрэчак. Назубок ведаў класікаў марксізма, Чарнышэўскага[2], Герцэна[3], Дабралюбава[4], Пісарава[5], Пляханава і логікай іх мыслення збіваў з ног любога праціўніка. Ён ня мысліў сябе без спрэчак і шукаў толькі такога асяроддзя...

Мы, асабліва Макар Шалай і Апанас Сідарэнка[6], заспрачаўшыся па якой кнізе ці па якому пытанню эстэтыкі, маглі забыць на абед, на вячэру, хапацца за чубы, прасядзець усю ноч, плаваючы ў сінім дыме…».

Амаль тое ж адзначаў і М.Гарэцкі: “У Шалая добра выяўлены марксісцкі падыход у працы” [1].

Паводле ўспамінаў сучаснікаў, Макар Шалай быў вышэй сярэдняга росту, рыжавалосы, рабаціністы. Заўсёды «ў гальштуку, пры касцюме. Акуратны, стрымны» (П.Пруднікаў). Крытыкам быў вельмі «зубатым, прыдзірлівым, патрабавальным» (С.Грахоўскі).

15 верасня 1928 г. М.Шалай, як і Я.Скрыган, А.Гародня, стаў сябрам «Маладняка». Разам з імі ў аб'яднанне ўступілі: М.Аляхновіч, С.Баркоўскі, Р.Бахта[7], П.Бузук, М.Гольдберг[8], М.Карпачоў, Я.Ліманоўскі, С.Ліхадзіеўскі, А.Пальчэўскі, А.Салагуб, А.Сянкевіч, П.Трус, М.Хведаровіч. Пасля рэарганізацыі «Маладняка» М.Шалай стаў сябрам БелАППа.

Восенню 1936 г. “марксіст” М.Шалай быў арыштаваны і апынуўся ў “амерыканцы”. Адзін час ён знаходзіўся ў камеры з Алесем Пальчэўскім, крытыкам Сымонам Куніцкім. “Крытык-спрачальнік” М.Шалай у адной камеры з крытыкам, “які перавучыўся” (словы самога Куніцкага пра сябе), і ў гэтых абставінах працягвалі спрэчкі аб літаратуры.

Дзякуючы ўспамінам Я.Лешчанкі (М.Кавыля) мы маем магчымасць уявіць, як, напрыклад, уваходзіў у “марксісцкую” камеру ў той час былы “марксіст” і студэнт універсітэта, а цяпер нацдэм і вораг народа М.Шалай.

“Адчынілі жалезныя дзверы чацьвёртай камеры. … Із камеры мне дыхнула такім смуродам, што я ледзь утрымаўся на нагах. Як п'яны, апусціўся тут жа каля дзвярэй на нары, паміж нейчых худых, як у рахіта, ног. Паглядзеў на вялікую камеру. На нарах, на цэмэнтовай падлозе адзін каля аднаго ляжаць, хто на баку, хто на спіне нейкія стварэнні із Дантавага хіба “аду…”[2]

Пра далейшы лёс М.Шалая недзе ў сярэдзіне-канцы 1940-х г., пачуў Ю.Віцьбіч ад аднаго з жыхароў лагера для DP[3] у Ватэнштэце (Нямеччына):

*“Ніхто так не кпіў над следчымі* (які трэба было мець характар, каб “кпіць над следчымі” ў экстрэмальнай абстаноўцы! — ***Л. М.***), *як Макар Шалай. Зразумела, што гэтыя кпіны ён часцей падаваў*

---

[1] Гарэцкі М. Маладняк» за пяць гадоў. Мн., 1928.
[2] Кавыль М. // Запісы. 1992. № 20.
[3] Ад англійскага *Displaced Person* (перамешчаная асоба) — выгнаннік, уцякач, эмігрант.

*пад такой сафістычнай падліўкай, што не адразу можна было адчуць усю горкасць прыгатаванае ім яды. А часам проста абсячэ следчага, што той нават не ведае, што далей пытацца ў яго. Такім чынам, ён абышоў усіх старых дасведчаных следчых і нарэшце натрапіў на практыканта.*

*Калі практыкант, які прыйшоў на пасаду следчага адразу ад варштату, зірнуў на Шалая, дык вельмі ўзрадаваўся. Перад ім стаяў з пакорлівым выразам на твары сціплы юнак. Практыкант нават усміхнуўся, бо нельга было сумнявацца ў тым, што ягоны дэбют пройдзе паспяхова.*

*На ўсе запытанні практыканта Шалай даваў самыя падрабязныя адказы. На пытанне:*

*А скажыце, вы запраўды хацелі адарваць БССР ад СССР?*

*Шалай адразу адказаў:*

*А як жа — зразумела, хацелі.*

*І далучыць яе да Польшчы? — падказаў практыкант.*

*Не, чаму да Польшчы, — нават абурыўся абвінавачаны, — крый Божа нас ад гэтага. Мы хацелі далучыць яе да Індыі.*

*І практыкант, для якога Індыя з'явілася "тэрра інкогніта", з паслухмянасцю фанографа запісаў гэты адказ.*

*У гэты момант у пакой увайшоў стары следчы.*

*Ну як? — запытаўся ён у практыканта, і той задаволена адказаў:*

*— На пяць з прысыпкай. Прызнаўся ва ўсім.*

*Следчы спадылба зірнуў на Шалая, як на свайго старога знаёмага, неяк недаверліва гмыкнуў і пачаў чытаць пратакол следства. А Шалай тым часам сядзеў на крэсле з выглядам пераможанага, які нарэшце не вытрымаў усяго ціску неабвержных фактаў.*

*Калі следчы дайшоў да Індыі, ягоны твар пачырванеў…*

*Следчы з лаянкай вытурыў практыканта і з яшчэ большай лаянкай накіраваў Шалая ў карцэр…"*

Дасюль расказ жыхара лагера пацверджаны з іншых крыніц. Чытаем далей:

*"…На вуліцах аднаго з беларускіх мястэчкаў яшчэ перад самай вайной можна было сустрэць дзіўнага чалавека. Абадраны, без шапкі, босы, аброслы барадой — ён ішоў, не звяртаючы аніякае ўвагі на вакольнае. Ён не пазнаваў ні сяброў, ні знаёмых і не адказваў на іхныя цёплыя прывітанні. Гэта было ўсё, што засталося ад Макара Шалая пасля нялюдзкіх катаванняў. І досыць было пачуць ягоны смех,*

*каб адразу сціснуліся кулакі на тых зацятых ворагаў беларускага народа, якія бязлітасна загасілі яшчэ адзін вялікі талент".*

Думаецца, тут расказчык зблытаў Макара Шалая з паэтам Віктарам Казлоўскім, які звар'яцеў на допытах у 1936-м. Бо як стала вядома ў верасні 2002 г. М.Шалая расстралялі разам з 70 іншымі дзеячамі беларускай культуры 29 кастрычніка 1937 г., а В. Казлоўскага сапраўды бачылі перад вайной у вышэй апісаным стане ў адным з беларускіх мястэчкаў.

---

[1] **БАЛІЦКІ Антон Васілевіч** [4(16).9.1891, в. Балічы Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 31.10.1937, Мінск], дзяржаўны дзеяч, публіцыст. У 1910 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. З 1916 у арміі, ваяваў на Румынскім фронце. У 1917—20 браў удзел у бел. грамадска-паліт. жыцці — гуртаваў беларусаў-вайскоўцаў, арганізоўваў бел. школы ў Адэсе. З 1921 у Мінску, з кастр. 1921 нам. наркама, у 1926—29 наркам асветы БССР. Адзін з праваднікоў палітыкі беларусізацыі. Аўтар артыкулаў па пытаннях нацыянальнай і культурнай палітыкі. Правадзейны член Інбелкульта, старшыня секцыі бел. мовы і літаратуры. У 1929—30 член ЦВК БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны АДПУ 3.9.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 15, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 18.3.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК**.** Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД**.** Пры паўторным разглядзе справы 30.10.1937 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да смяротнага пакарання. Расстраляны ў Мінску. Па першай справе рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 14.6.1988, па другой (№ 20950-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) — 25.3.1958.



Баліцкі А.

---

[2] **ЧАРНЫШЭЎСКІ Мікалай Гаўрылавіч** [12(24).7.1828, Саратаў, Расія — 17(29).10.1889], рускі пісьменнік, публіцыст, філосаф, паслядоўнік матэрыялізму і крытычнага рэалізму.

[3] **ГЕРЦЭН Аляксандр Іванавіч** [25.5(6.4).1812, Масква — 9(21).1.1870, Парыж], рускі пісьменнік, публіцыст, філосаф, рэвалюцыянер.

[4] **ДАБРАЛЮБАЎ Мікалай Аляксандравіч** [24.1(5.2).1836, Ніжні Ноўгарад, Расія — 17(29).11.1861, Санкт-Пецярбург], рускі літаратурны крытык, публіцыст, рэвалюцыйны дэмакрат.

[5] **ПІСАРАЎ Дзмітрый Іванавіч** [2(14).10.1840, с. Знаменскае Арлоўскай губ., Расія — 4(16).7.1868, *Дуббельн* (*Дубулты*) каля Рыгі], рускі публіцыст і літаратурны крытык, рэвалюцыйны дэмакрат.

[6] **СІДАРЭНКА Апанас** (псеўд.: Пеначкін (?), літаратурны крытык.

[7] **БАХТА Рыгор** [псеўд.: Р.Горбах], празаік, перакладчык. Дата нараджэння невядома. Сябра Бабруйскай філіі «Маладняка». З восені 1928 (па рэкамендацыі Міхася Лынькова) — сябра Мінскай філіі “Маладняка”.

З арт. Янкі Казекі «Дзядзька Рыгор» (Полымя. 1991. № 12; адзіныя ўспаміны пра Р.Бахта, якія з'явіліся ў друку за мінулыя 70 гадоў):

*«Да ўсіх настаўнікаў* [вучні Любоніцкай (Кіраўскі р-н) сямігодкі] *звярталіся па імя і імя па бацьку, а да яго — дзядзька Рыгор... Быў ён не малады ўжо, але сям'і не меў, жыў адзінока... З захапленнем слухалі мы яго расказы пра пісьменнікаў, творы якіх вывучалі ў школе, падрабязнасці іх жыцця...*

*У канцы 1929... яго абвінавацілі ў антысемітызме і звольнілі з настаўніцкай працы, а ў студзені 1930 выключылі з БелАППа...*

*На пачатку 1933... за фрэзерным варштатам убачыў свайго былога настаўніка. Абсыпаны стружкамі і апілкамі, ён апрацоўваў дэталі аконных рамаў...*

*У 1933 ён пераехаў у Мінск: М.Лынькоў уладкаваў яго (...) у выдавецтве. У сярэдзіне трыццатых гадоў губляюцца сляды Рыгора Бахты... Мабыць, апошні, хто бачыўся з Р.Бахтам, быў Аляксей Зарыцкі... У канцы 1936 — пачатку 1937 Бахта прыйшоў да яго на кватэру ў Чаркізаве, на ўскраіне Масквы. Сказаў, едзе ў Грузію вывучаць грузінскую і армянскую мовы...»*

[8] **ГОЛЬДБЕРГ Міхась [**25.12.1908, Мінск — ?], журналіст. Са шляхецкай сям'і. У 1924—26 член расійскай літаратурнай групы «Звенья», якая існавала ў той час у Мінску. З 1928 сябра «Маладняка» і студэнт БДУ.

«Яго жанры: лісткі з блакноту, газетныя фельетоны, мастацкі нарыс, газетная навела. Яго тэмы — рабочыя ўскраіны гораду… сельска-гаспадарчая камуна… Па-мастацку апісвае Гольдберг глухія куткі Палесся… Стыль яго лёгкі, вобразны, моцны, піша ён з пачуццём і захапленнем.”, — пісаў аб ім М.Гарэцкі.

З успамінаў С.Грахоўскага: «Міша Гольдберг, які пісаў нарысы… у Маскве стаў Златагоравым — пераклад з яўрэйскай на рускую…»

«Пасля лекцый ва ўніверсітэце я любіў, калі цесным гуртком мы збіраліся ў невялікай аўдыторыі і Мішка Гольдберг <…> гіпнатычна размахваючы кучараваю чупрынаю, іграў Брамса…» (Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990).